№ 148 (1961)
Чацвер, 12 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +23...+25, уначы — +12...+14; у Брэсце ўдзень — +24...+26, уначы — +15...+17; у Гродне ўдзень — +23...+25, уначы — +14...+16; у Віцебску ўдзень — +20...+22, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +21...+23, уначы — +14...+16; у Магілёве ўдзень — +22...+24, дождж, уначы — +13...+15, без ападкаў.

На астатняй тэрыторыі краіны захаваецца цёплае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Юрый Сівакоў на Алімпіяду не паедзе

Як паведамлялася раней, Еўрасаюз прыняў заяву аб тым, што знаходжанне на Алімпіядзе ў Афінах Юрыя Сівакова абсалютна непрымальнае. Нягледзячы на ўсе спробы беларускіх чыноўнікаў (былі прынятыя заява беларускага МЗС і заява Нацыянальнага алімпійскага камітэта), Еўрасаюз пакінуў сваё рашэнне без змяненняў.

На тэрміновай нарадзе, дзе прысутнічалі Аляксандр Лукашэнка і Юрый Сівакоў, было прынята рашэнне, што Сівакоў на Алімпіяду не паедзе, а будзе кіраваць дэлегацыяй з Мінска.

Зараз у Мінску тэрмінова ствараецца другі алімпійскі штаб, які будзе шчыльна супрацоўнічаць са штабам нашай дэлегацыі ў Афінах і прымаць аператыўныя рашэнні пры ўзнікненні магчымых праблем.

Напэўна, асноўная адказнасць за дзейнасць беларускай дэлегацыі ў Афінах ляжа на плечы шэфа алімпійскай місіі Анатоля Іванова і намесніка міністра спорту і турызму Галіну Забур'янаву.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Ціск на кандыдатаў ад апазіцыі

Ініцыятыўныя групы кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад апазіцыі пачалі сутыкацца з праблемамі пры рэгістрацыі. Так, у акруговую выбарчую камісію Барысаўскай гарадской выбарчай акругі №77 падаў дакументы на рэгістрацыю сваёй ініцыятыўнай групы кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы "За чысты Барысаў", актывіст Партыі БНФ Сяргей Салаш.

На наступны дзень некаторым членам ініцыятыўнай групы патэлефанавалі невядомыя, якія запатрабавалі ад актывістаў апазіцыі заявіць, што яны падтрымліваюць С.Салаша пад прымусам.

Больш за тое, 8 жніўня да члена ініцыятыўнай групы Тамары Садчанка прыйшлі дадому людзі, якія не пажадалі назваць сябе, і прымусілі жанчыну пісьмова адмовіцца ад членства ў групе.

Яшчэ аднаго члена ініцыятыўнай групы, работніцу аднаго з дзяржпрадпрыемстваў Барысава, кіраўніцтва прадпрыемства прымусіла 9 жніўня напісаць заяву аб выхадзе з групы пад пагрозай непрацягу працоўнага кантракта.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Спартсмены — дзецям

У гродзенскім Доме культуры прайшла чарговая сустрэча з серыі "Спартсмены — дзецям". Вядомыя беларускія спартсмены (хакеісты **Леанід ФАЦІКАЎ**, **Канстанцін КАЛЬЦОЎ**, тэнісістка **Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**, дзяўчаты са зборнай Беларусі па мастацкай гімнастыцы) зрабілі падарункі дзецям шматдзетных сем'яў, а таксама тым дзецям, якія гадуюцца ў дзіцячых дамах сямейнага тыпу.

Сярод падарункаў — тэлевізар, веласіпеды, пыласос і коўдры на агульную суму каля 2000 долараў ЗША.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Схапілі фальшывы-манетчыка

На след злачыннай групоўкі, якая займаецца друкаваннем і збытам фальшывых замежных грошай, выпадкова выйшлі віцебскія міліцыянеры. На адной з вуліц абласнога цэнтра яны затрымалі мужчыну ў момант, калі ён спрабаваў прадаць мясцоваму жыхару 7 купюр па 100 еўра за 600 долараў, што быццам было выгадна для пакупніка.

Пры асабістым аглядзе ў прадаўца валюты было знойдзена яшчэ 68 купюр па 100 еўра, а ў кватэры затрыманага аператыўнікі знайшлі 48 купюр вартасцю па 100 долараў. Усю грашовую масу, якая выглядала падазрона свежай, накіравалі на экспертызу, у выніку якой высветлілася, што ўсе замежныя грошы выраблены спосабам плоскага друку, а серыйныя нумары, кантрольныя літары і лічбы скапіраваны з сапраўдных купюр з дапамогай электрафатаграфіі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**Шаноўныя чытачы! Да 15 жніўня можна падпісацца на «Народную волю», якую будзеце атрымліваць з 1 верасня.**

**ЧУЛІ?**

### *Джон МАККЕЙН, сенатар Злучаных Штатаў Амерыкі:*

# «Лукашэнка баіцца нават размаўляць з прыхільнікамі дэмакратыі»

Днямі былы кандыдат у прэзідэнты ЗША, сенатар Джон Маккейн планаваў наведаць Беларусь разам з трыма сваімі калегамі. Але беларускія ўлады адмовілі амерыканцам у візе.

Ніжэй мы прыводзім поўны тэкст заявы сп. Маккейна, пераклад на беларускую мову якога зрабіла Радыё Свабода:

*"Я расчараваны, але, шчыра кажучы, не здзіўлены апошнім антыдэмакратычным захадам беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. У гэтым месяцы я збіраўся ачоліць дэлегацыю амерыканскіх сенатараў у Беларусь, дзе мы планавалі правесці некалькі сустрэч, у тым ліку і з прэзідэнтам. Баючыся, што мы будзем крытыкаваць ягоную таталітарную ўладу, спадар Лукашэнка адмовіў нам у візах і не дазволіў уехаць у краіну. Хаця ні для каго не ёсць адкрыццём боязь дыктатара, які разглядае як пагрозу нават наведванне абраных народам прадстаўнікоў, аднак адмова з боку Лукашэнкі сталася яшчэ адным сумным днём для беларускага народа. Беларускія людзі, аднак, павінны суцяшаць сябе веданнем таго, што такая тыранія не можа доўжыцца вечна.*

*Ва ўсім свеце сябры Беларусі, да якіх я сябе залічваю, са шкадаваннем адзначаюць, што гэты крок ёсць толькі апошнім інцыдэнтам у шэрагу правакацый супраць прыхільнікаў дэмакратыі. Хаця адмова нам у візах ёсць яскравым доказам агіды прэзідэнта Лукашэнкі да дыялогу з абранымі ў свабодных выбарах палітыкамі, яна бляднее ў параўнанні з нядаўнімі падзеямі, што адбыліся ў самой Беларусі. Урад пад кіраўніцтвам спадара Лукашэнкі, як для яго звычайна, праводзіў пераслед, арышты, збіццё абаронцаў дэмакратыі. Гэтыя дэмакраты часта не вінаватыя ні ў чым іншым, як толькі ў тым, што ўголас выказваліся і дэманстравалі супраць дыктатуры, да якой знізіўся іхні ўрад.*



*Спадар Лукашэнка не спыніў сваіх нападаў на любую прыкмету апазіцыі да ягонага адзінаўладнага рэжыму. На генерала Валерыя Фралова, аднаго з найбольш прыкметных лідэраў дэмакратычнага руху, перад ягоным домам напалі чацвёра людзей у масках і жорстка яго збілі. Міхаіл Марыніч, сябра і адзін з лідэраў найшырэйшага дэмакратычнага аб'яднання Беларусі кааліцыі* **"5+"**, *быў 26 красавіка арыштаваны і ўсё яшчэ ўтрымліваецца пад арыштам. Беларуская партыя працы, сябра-заснавальнік* **"5+"**, *была нядаўна ліквідаваная Вярхоўным судом Беларусі.*

*Заходнія грамадскія апытанні паказваюць падзенне падтрымкі спадара Лукашэнкі і ягонай палітыкі ўзору савецкага часу. Спадар Лукашэнка адказаў на гэта далейшым падаўленнем свабоды слова, улучна з выдаленнем з краіны некалькіх расійскіх журналістаў за тое, што яны падалі праўдзівую інфармацыю аб колькасці ўдзельнікаў апазіцыйнага мітынгу пратэсту. Падчас гэтага мітынгу шматлікія мірныя актывісты былі арыштаваныя і збітыя аддзеламі дзяржаўнай міліцыі.*

*Зараз да гэтага нарастаючага спісу злоўжыванняў мы далучаем адмову ў візе сенатарам Злучаных Штатаў. Прэзідэнт Лукашэнка баіцца нават размаўляць з прыхільнікамі дэмакратыі, і з гэтай прычыны, як і з прычыны ўсяго таго, што адбываецца сёння ў гэтай вялікай, але праблемнай краіне, сябры Беларусі не могуць не адчуваць смутку. Урад і народ Беларусі павінны ведаць, што нашая ўвага да тамтэйшых падзей будзе нязменнай і што нашыя спадзяванні на свабодную і дэмакратычную будучыню Беларусі вытрываюць".*

## «Мядовы спас-2004» у Пінску

Першыя ўсебеларускія дні пчалярства і Міжнародны кірмаш "Мядовы спас-2004" адбудуцца ў Пінску (Брэсцкая вобласць) 14—15 жніўня. У іх возьмуць удзел пчаляры і пчалярскія прадпрыемствы з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Чэхіі.

**Алег СТАЦЭНЯ.**

## У Калякіна ўзніклі праблемы...

У лідэра Партыі камуністаў Беларускай (ПКБ) Сяргея Калякіна ўзніклі праблемы з рэгістрацыяй ініцыятыўнай групы. Палітык балатуецца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе № 38.

Як паведаміў БелаПАН С.Калякін, некалькі дзён таму яго прадстаўнікі перадалі ў акруговую выбарчую камісію дакументы для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы — заяву прэтэндэнта аб згодзе балатавацца і спіс групы. *"Гэта адзіныя дакументы, якія, згодна з выбарчым кодэксам, неабходна падаваць для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы"*, — сказаў лідэр ПКБ. Аднак у акруговай камісіі запатрабавалі падаць пацвярджэнне аб тым, што С.Калякін з'яўляецца грамадзянінам Беларусі. *"Я не лічу сябе абавязаным даваць якія-небудзь дадатковыя звесткі. У акруговых камісій ёсць права звяртацца ў дзяржаўныя органы з рознымі запытамі, што тычацца звестак аб кандыдатах у дэпутаты".*

Паводле слоў лідэра ПКБ, у выпадку адмаўлення акруговай камісіі ў рэгістрацыі яго ініцыятыўнай групы ён будзе абскарджваць гэтае рашэнне ў Цэнтрвыбаркаме, а затым, калі будзе неабходна, у судзе.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Падазраецца ў забойстве бацькі

Супрацоўнікі мінскай міліцыі затрымалі 19-гадовага маладога чалавека, які падазраецца ва ўчыненні забойства ўласнага бацькі з наступным расчляненнем яго трупа. У двары дома па вуліцы Нававіленскай у кантэйнеры са смеццем была знойдзена тазасцегнавая частка цела мужчыны, загорнутая ў цэлафанавы пакет і жаночы халат. У той жа дзень пракуратура Цэнтральнага раёна Мінска завяла крымінальную справу па факце забойства, а ў ГУУС была створана следча-аператыўная група.

У выніку ўдалося ўстанавіць асобу забітага — ім аказаўся 46-гадовы раней судзімы жыхар Мінска. Следчая група ўстанавіла, што падазраваемы падчас сваркі забіў бацьку, расчляніў труп і выкінуў яго часткі ў розных месцах горада.

Цяпер гэты чалавек узяты пад варту і дае паказанні, прызнаючы сваю віну.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

**РАКУРС**

# Поражение на выезде

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ, эксперт аналитического центра «Стратегия»**

Между ликвидацией Европейского гуманитарного университета, Белорусской партии труда, попыткой парализовать выпуск газеты "Народная воля" и отказом греков пустить Юрия Сивакова на Олимпиаду на первый взгляд нет прямой связи.

Однако на самом деле логическая взаимообусловленность этих событий достаточно прозрачна.

Ужесточение созданной в Беларуси системы власти, усиление репрессий против гражданского общества неизбежно сопровождается конфликтом с цивилизованным миром.

Избирательность репрессий создает впечатление некой случайности. В самом деле, почему одни общественные организации или газеты закрывают, а другие нет? Почему литературные журналы отняли у Союза писателей два года назад, а до "Народной воли" добрались только теперь?

Можно ли здесь проследить какую-то закономерность?

На наш взгляд, логика такова. Если для установления контроля над номенклатурой официальный лидер вооружился тактикой выбивания самого сильного игрока (самого известного председателя колхоза, директора завода, ректора вуза, главного банкира), то в отношении идейных и политических оппонентов выбрана противоположная тактика.

Здесь репрессии проводятся по схеме от слабого к сильному, от малоизвестного к более известному.

В системе образования сначала избавлялись от отдельных нелояльных преподавателей. Затем дошла очередь и до целых учебных заведений. В прошлом году закрыли Национальный гуманитарный лицей, теперь — ЕГУ.

В нескончаемой борьбе со СМИ тоже наблюдается определенная тенденция.

Сначала закрывались не очень известные издания (региональные газеты), СМИ с негативным для большинства населения идеологическим клеймом ("Свабода" — рупор "националистов"), относительно малотиражные газеты ("Навіны", "Наша свабода").

Затем трех журналистов осудили по уголовной статье.

Вскоре дошла очередь и до основных независимых газет. "БДГ" вытеснили в полумаргинальную сферу (запретили официальную подписку и продажу через "Союзпечать"). Наконец добрались и до "Народной воли", единственной ежедневной независимой газеты, в некотором смысле символа негосударственной прессы.

То же самое касается и общественных структур.

Сначала закрывали отдельные негосударственные организации. Затем ликвидировали ресурсные центры. Теперь очередь дошла и до оппозиционных партий. Опять же выбрали для начала не самую известную — Белорусскую партию труда.

Исходя из такой логики, следующими могут быть ОГП и Партия БНФ.

Иначе говоря, общество готовят к брутальным действиям властей постепенно, шаг за шагом. Общественный организм приучают к боли гомеопатическими дозами. Ибо шоковая терапия может вызвать возмущение и активный протест.

Заодно проверяют реакцию населения. Если общество активно сопротивляется, то власти делают паузу. Самые свежие примеры: полугодовая история закрытия ЕГУ и отступление властей в деле исключения опального депутата Владимира Парфеновича из Национального олимпийского комитета.

После паузы, как правило, наступление продолжается, ибо такова внутренняя логика этой властной системы.

Скандал вокруг назначенного главой олимпийской делегации министра спорта и туризма Юрия Сивакова — в связи с его намерением поехать в Грецию — интересен своей предсказуемостью. Какова же в данном случае логика действий официального Минска?

Когда Парламентская ассамблея Совета Европы приняла резолюцию по докладу Христоса Пургуридеса, практически все независимые СМИ едва ли не единодушно указали на министра спорта как на весьма вероятную первую жертву преследования европейскими государствами лиц, подозреваемых в причастности к исчезновению оппонентов режима. И указали именно в связи с намечавшейся поездкой на Олимпийские игры.

Наконец, о такой опасности должны были предупредить руководство страны белорусские дипломаты.

В общем, высшее руководство не могло не знать о возможных последствиях поездки Сивакова в Афины.

И была масса простых и безболезненных вариантов избежать скандала. Разве обязательно назначать руководителем олимпийской делегации именно министра спорта? С этой миссией вполне мог справиться его заместитель или руководители НОК. И благовидных предлогов не надо особо придумывать.

Зачем же было лезть на рожон?

Единственный логичный ответ на этот вопрос состоит в том, что Сивакова назначили руководителем делегации сознательно и даже демонстративно.

Можно предложить два объяснения смысла этой демонстрации. Одно лежит в области психологии. Отправляя Юрия Сивакова на Олимпиаду, официальный Минск бросает вызов Западу, показывает свою силу, дескать, не боимся мы вас. Это такое своеобразное преодоление комплекса политической неполноценности, боязнь показать слабость.

Другое объяснение находится в сфере чистой политики и основывается на четком политическом расчете.

Можно предположить, что накануне важной политической кампании Александр Лукашенко в каком-то смысле заинтересован в конфликте, обострении отношений с Западом.

По крайней мере, так получалось всегда в период предыдущих кампаний (например, в 1996, 2001 годах).

Причем плюсом для властей является то, что, по их версии, на этот раз Запад ущемляет интересы Беларуси не в области высокой политики, а в чувствительной для населения, болельщиков (т.е. простых обывателей) сфере спорта.

И теперь даже любые неудачи белорусских спортсменов можно списать на предвзятое отношение к ним со стороны хозяев Олимпиады, Международного олимпийского комитета и т.д.

Обратите внимание: в официальных заявлениях МИДа и НОКа Беларуси в связи с "делом Сивакова" тщательно обходится вопрос о том, **что** послужило причиной отказа в выдаче визы белорусскому министру.

Однако в такой авантюрной игре есть и свои опасности для властей.

Прежде всего политизация обывателя — дело всегда обоюдоострое.

Людям долго и старательно внушали, что не может быть международной изоляции страны, находящейся в центре Европы. И вот теперь далекий от политики болельщик увидит, что при двух сотнях стран — участниц Олимпийских игр только руководителя белорусской делегации не пустили в Афины! Значит, тут что-то не так.

Более того, с момента назначения министра спорта руководителем олимпийской делегации события могли пойти и по совсем драматичному, куда более жесткому сценарию.

Всем памятна история с поездкой в США госсекретаря союзного государства Павла Бородина. Представим, что и теперь события могли разворачиваться по аналогичному сценарию. В соответствии с рекомендациями ПАСЕ по докладу Пургуридеса какая-нибудь европейская страна возбуждает уголовное дело и выписывает ордер на задержание Ю.Сивакова. Он прилетает в Афины — и попадает в камеру.

Кто может дать гарантию, что через несколько месяцев узник не заговорил бы?

*("Белорусские новости".)*

**СКАНДАЛ**

# Врачи предстанут перед судом

*Если ничего не изменится, то, может быть, в конце августа — начале сентября в суд передадут "дело врачей" Республиканского научно-практического центра (РНПЦ) "Кардиология". Хирурги-кардиологи обвиняются в том, что незаконно взимали с пациентов и их родственников денежные средства — всего насчитано 65,7 миллиона рублей.*

Скандал разразился в стенах научно-практического центра осенью прошлого года.

В сентябре 2003 года сотрудниками ОБЭП Московского района Минска были задержаны двое молодых кардиохирургов РНПЦ. Обвинения, предъявленные врачам, были слишком серьезные: якобы они продавали пациентам электрокардиостимуляторы и электроды, которые те должны были получать бесплатно. Аппараты как российского, так и американского производства закупались на тендерной основе за бюджетные деньги. Пациентам же говорилось, что электрокардиостимуляторов импортного производства в наличии нет и купить их можно в СП "Мультимедицин". Понятно, за большие деньги. Больным даже не требовалось объяснять, что западные приборы значительно лучше российских. На самом деле в СП якобы не было электростимуляторов, пациентам имплантировали приборы, которые находились в центре и были переданы туда Министерством здравоохранения. Фактически медикам инкриминировали то, что они стали на путь бессовестного обмана людей и путем мошенничества их попросту обкрадывали.

Против врачей было возбуждено уголовное дело. В ходе следствия было выявлено несколько подобных инцидентов, "дело врачей" передано в Управление по экономической преступности МВД.

В течение года подозреваемых в крупном мошенничестве врачей стало уже пятеро. Арестован также заместитель директора СП "Мультимедицин".

На допрос следователи МВД вызывали руководителя научно-практического центра **Николая Манака**, его заместителя по хирургической помощи, врача с мировым именем **Юрия Островского**.

В феврале 2004 года Николай Манак лишился директорской должности. По официальной версии, в связи с выходом на пенсию. С известным кардиологом, личным врачом Петра Машерова просто не продлили контракт. По неофициальной версии, Манака "ушли" из-за скандала с кардиохирургами. Николай Андреевич был готов работать и дальше, но в Минздраве, видимо, решили иначе.

В Управлении по экономической преступности МВД не говорят, когда дело кардиохирургов будет передано в суд и в какой именно суд. Но мы надеемся, что судебные слушания будут открытыми. Хотя бы для представителей средств массовой информации. Ведь данное дело очень непростое. Как ни печально, но сегодня уже никого не удивляет, когда на скамье подсудимых оказываются медики. Как, впрочем, и директора предприятияй, преподаватели вузов, предприниматели. Такое ощущение, что взятки и кражи стали отличительной особенностью нашего государства.

К слову, кардиохирурги не признают себя виновными и напрочь отвергают саму возможность совершения какого-либо мошенничества с установкой электрокардиостимуляторов. Один из обвиняемых, сообщила "БДГ", сказал, что пациенты покупали электрокардиостимуляторы только в том случае, когда в центре не было бесплатных приборов или когда пациент хотел приобрести импортный стимулятор. Подменить один стимулятор другим невозможно в принципе. После установки электрокардиостимулятора на руки больному выдается паспорт прибора, а при выписке на отдельном листе указывается, какая операция была произведена больному и какой аппарат установлен. Все это необходимо для того, чтобы в случае сбоев можно было быстро перепрограммировать электрокардиостимулятор.

Кто прав, кто виноват должен решить суд. Ждать, видимо, придется недолго.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

**БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ**

## Навошта павялічваць мінус?

Агенцтва БелТА паведамляе, што Аляксандр Лукашэнка ў час рабочай сустрэчы са сваім паўнамоцным прадстаўніком — намеснікам прэм'ер-міністра Васілём Даўгалёвым даручыў апошняму актывізаваць намаганні па далейшым павелічэнні беларуска-расійскага тавараабароту.

Вядома, што экспарт нашых тавараў у Расію за студзень—май гэтага года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага павялічыўся на 37 працэнтаў, імпарт адтуль — на 28,9 працэнта. Так што рост аб'ёму знешняга гандлю з усходняй суседкай і так высокі. А вось сальда адмоўнае. Яно склала аж 1 мільярд 357,6 мільёна долараў. СМІ паведамляюць, што за першае паўгоддзе адмоўнае сальда ў гандлі з Расіяй павялічылася яшчэ і складае ўжо 1 мільярд 760,8 мільёна долараў. У той час як з краінамі па-за СНД яно станоўчае ў суме 943,6 мільёна долараў.

Што ж атрымліваецца? Валюта, якую Беларусь зарабляе ў гандлі ў асноўным з заходнімі краінамі, перакачваецца ў Расію і яе нават не хапае, каб перакрыць мінус. Дык чаму ж мы павінны павялічваць гандаль з Расіяй (і яшчэ больш павялічваць мінус сальда), а не з краінамі Захада?

Той мінус, які склаўся ў гандлі з Расіяй, — вельмі сур'ёзны сігнал. Час ужо дэталёва разабрацца, па чыёй віне ён такі і каму выгадны такі гандаль. Аднак такое пытанне, выходзіць, нікога не цікавіць? Ва ўсялякім разе, у згаданым паведамленні аб гэтым ні слова.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Алег Трусаў прэзентаваў кнігу

*Прэзентацыя кнігі вядомага грамадска-палітычнага дзеяча, археолага і гісторыка, старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алега Трусава "Падсумаванне" адбылася ў Мінску.*

У гэтым навукова-папулярным выданні, якое выйшла з друку да 50-годдзя з дня нараджэння дацэнта кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, кандыдата гістарычных навук А.Трусава, прадстаўлены яго артыкулы, апублікаваныя ў 2004 годзе, а таксама спіс яго 550 навуковых, навукова-папулярных і вучэбна-метадычных публікацый з 1976 па 2004 год.

На прэзентацыі быў адзначаны ўклад А.Трусава — дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання і намесніка старшыні камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ў справе абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту і поўнай незалежнасці Беларусі, распрацоўкі афіцыйнай выявы дзяржаўнага герба краіны "Пагоня", бел-чырвона-белага сцяга Рэспублікі Беларусь і навершыя для яго.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Моладзь співаецца...

*"Самай вострай праблемай моладзі па-ранейшаму застаецца алкагольная і наркатычная залежнасць,* — заявіла намеснік міністра адукацыі РБ Таццяна Кавалёва на прэс-канферэнцыі "Актуальныя пытанні дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі", прысвечанай Міжнароднаму дню моладзі. — *Агульная колькасць непаўналетніх, якія стаяць на ўліку ў наркалагічных службах, у гэтым годзе дасягнула 15.714 чалавек".*

Колькасць моладзі, якая ўжывае алкагольныя напоі, значна ўзрасла. Статыстыка сцвярджае, што кожны чацвёрты падлетак, які здзяйсняе злачынства, знаходзіцца пад уплывам алкагольнага ап'янення. Па словах Таццяны Кавалёвай, "дзяржавай праводзіцца шэраг мерапрыемстваў, прымаецца шмат мер, каб абараніць маладых ад такой страшнай з'явы, як алкагалізм, але ўсё залежыць ад выбару саміх падлеткаў. Вельмі горка ад таго, што яны часта самі не здагадваюцца аб згубным уздзеянні алкаголю і наркотыкаў".

**Вольга БЕЛАЯ.**

## Пацярпеў ад выбуху

Пры выбуху газапаветранай сумесі ў вёсцы Скураты Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці быў разбураны зборна-шчытавы дачны дом, 40-працэнтныя апёкі цела атрымаў яго гаспадар.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Аварыя пад Баранавічамі

На пятым кіламетры дарогі "Баранавічы—Уцёс" адбылося дарожна-транспартнае здарэнне, у выніку якога два чалавекі загінулі, пяцёра паранены.

ДТЗ адбылося непадалёк ад вёскі Узногі. 33-гадовая жанчына, якая кіравала аўтамабілем маркі "Форд", не справілася з кіраваннем і выехала на паласу сустрэчнага руху. "Форд" і аўтамабіль маркі "Хонда", які ехаў яму насустрач, сутыкнуліся амаль лоб у лоб.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

Народная Воля

12 ЖНІЎНЯ 2004 г.



Часнок, цыбуля, кабачкі!.. Дзе ж вы, мае пакупнічкі?!

Фота photo.bymedia.net

АЛІМПІЯДА-2004

# «Па-добраму злы» настрой

*У штабе беларускай алімпійскай дэлегацыі ў Афінах настрой "па-добраму злы". Так адказала на пытанне БелаПАН аб псіхалагічнай абстаноўцы ў сувязі з сітуацыяй вакол кіраўніка дэлегацыі Юрыя Сівакова намеснік міністра спорту і турызму Галіна Забур'янава.*

"У кіраўніка дэлегацыі ёсць два намеснікі: я і віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Аляксандр Мядзведзь. У кожнага свае абавязкі, якія ён павінен выконваць, — сказала Г.Забур'янава ў тэлефонным інтэрв'ю БелаПАН. — Настрой па-добраму злы яшчэ і таму, што нават некаторыя нашы калегі, якія асвятляюць і аналізуюць ход падрыхтоўкі да Алімпіяды, займаюцца шчырым шкодніцтвам, маюць не вельмі добрыя думкі, не зусім шчырыя, і выконваюць пэўны заказ. Гэта не па-мужчынскі. Але мы працуем, нягледзячы ні на якія абставіны".

Паводле слоў Г.Забур'янавай, з грэкамі вельмі цяжка вырашаць арганізацыйныя пытанні. "У нас, напрыклад, дагэтуль няма кабельнага тэлебачання, хаця ўсе каналы, якія трансліруюць Алімпіяду, можна ўбачыць толькі па "кабелі". Урэшце, у параўнанні з іншымі дэлегацыямі, у нас праблем не так шмат: аднаго слова гонару нам недастаткова, мы "прабіваем" вырашэнне пытанняў. Некаторыя ж чакаюць зрухаў тыднямі. Ёсць нават дэлегацыі, якія не маюць памяшканняў для сваіх штабоў", — адзначыла Г.Забур'янава.

Паводле яе слоў, акліматызацыя беларускіх спартсменаў да гарачага грэчаскага клімату праходзіць паспяхова. "Была нават прама супрацьлеглая праблема: кандыцыянеры занадта выстуджвалі паветра, а цёплых коўдраў у грэкаў не знайшлося. Але мы ўжо прыстасаваліся", — адзначыла Г.Забур'янава. Станоўчым фактарам, паводле яе слоў, з'яўляецца адсутнасць розніцы паяснога часу. Пасля зімовай Алімпіяды 1994 года ў Нарвегіі наступныя чатыры Алімпіяды праходзілі ў іншых частках свету: ЗША (1996), Японіі (1998), Аўстраліі (2000) і зноў у ЗША (2002).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Афины: готовность номер один

Игры откроются только 13 августа, но уже вчера спортсмены начали борьбу за золотые медали самого ожидаемого мероприятия в мире спорта. На старт вышли футболисты.

Билетов уже практически нет. Все смели не только гости Афин, но и местные жители, для которых эта Олимпиада — настоящий праздник. Очереди все последние сутки тянулись по улицам от стадионов, но, как утверждают в оргкомитете Олимпиады, билетов хватило всем желающим.

По-прежнему есть и недовольные. Прошли несколько немногочисленных демонстраций. Люди утверждают, что Греция с приходом Олимпиады превратилась в полицейское государство. Вокруг много солдат, повсюду развешаны камеры слежения, что не может не раздражать некоторых горожан.

А вот спортсмены очень даже довольны предоставленными условиями. Почти все команды уже прилетели в Афины и даже успели опробовать некоторые спортивные сооружения, на которых им предстоит выступить перед многотысячной публикой.

## Первый допинг-скандал

Боксер из Кении Дэвид Маньяси уличен в применении допинга.

Его проба дала положительный результат на наличие в крови катгина, который обладает свойствами амфетаминов.

Это первый крупный допинг-скандал, произошедший уже практически во время Олимпиады. Боксер находился в Афинах, но теперь будет лишен аккредитации и должен будет покинуть Грецию.

Также боксер исключен и из сборной Кении, где проступок ему не простили и вряд ли простят. Допинг-скандалы, как известно, очень сильно вредят имиджу спортивных держав, а Кения, славящаяся своими легкоатлетами, вряд ли хочет выставлять себя в неблаговидном виде перед Олимпиадой.

**Подготовил к печати Виталий ГАРБУЗОВ.**

# Плывуць у Беларусь белыя лебедзі...

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

Сапраўды, няўжо гэта непасільна для краіны: калі гадамі не выдае яго кнігі дзяржаўнае выдавецтва, дайце магчымасць пісьменніку без аніякіх ліцэнзій прадаваць кнігі, выдадзеныя на ўласныя грошы альбо грошы спонсараў! Цану ім паставіць сам рынак. Я ўжо не кажу пра тое, што палітыка дзяржавы па дэнацыяналізацыі Беларусі, закрыццё беларускіх школ, зняважлівае стаўленне да нацыянальнай адукацыі і да мовы карэннага насельніцтва, апроч збяднення інтэлігенцыі, перакрывае і тыя дэклараваныя сцяжынкі да чытача, якія маглі б хаця неяк паспрыяць нацыянальнаму творцу — уключаючы і шырока разрэкламаваныя Дні пісьменства.

Не хачу ганіць арганізацыю гэтых планавых штогадовых мерапрыемстваў — яны заўсёды праходзяць на нібыта дастаткова добрым узроўні. Але раз за разам у іх, на маю (і не толькі маю) думку, усе больш знікае галоўнае, дзеля чаго яны некалі задумваліся, а менавіта: прапаганда перш за ўсе беларускага слова, беларускай культуры, беларускай пісьменнасці, ды і ўвогуле самой пісьменнасці. Ці толькі для таго, каб добра паесці, смачна папіць лідскага піва і накупляць забавак, арганізуецца такое свята? І чым яно адрозніваецца ад усіх іншых — свята горада, "Дажынак"? Хіба тым, што на пачатку ўсё ж кажацца колькі там слоў пра гісторыю і культуру?

І зноў мне хочацца вярнуцца да словаў, якія, як луска, сыплюцца штодзень на нашы вушы...

У тым жа самым выпуску навін, з якога я пачала гаворку, як на тое, нехта з эканамістаў захлынаўся ад радасці, паведамляючы нам, слухачам, што бюджэт Беларусі ну такі "празрысты", што па сваёй празрыстасці ў гэтым плане мы ўваходзім у першую дзесятку краін свету. Радасць зноў ледзь не ахапіла мяне — але тут я ўзгадала бюджэт адной толькі ўстановы — "адміністрацыйнага будынка Фрунзе, 5", які па звычцы называюць Домам літаратара — і радасць мая зноў жа згасла. За сем гадоў "выкачкі" з гэтага Дома вельмі і вельмі немалых грошай ніхто ні з кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, ні тым больш з саміх пісьменнікаў, у якіх рэгулярна адбіраюць прыналежныя ім сумы, не змог нічога даведацца пра гэты самы "празрысты бюджэт." "Качаюць грошы" і з нашай былой паліклінікі, дзе цяпер у адным крыле размясціўся камп'ютэрны клуб, а на другім вісіць знамянальны надпіс "Милиция. Вход запрещен". Ці не на гэты "ясак" запросяць у Мінск даўганогую балерыну? Ці не на іх (уключаючы, вядома, і многія іншыя адабраныя ў розных устаноў прыналежныя ім дамы і маёмасць, накшталт відэа- і кінатэхнікі) ужо неадноўчы запрашалі і шчодра адорвалі іншых гасцей з Белакаменнай? Ці не на іх гледачы даведваліся, як "Любить по-русски"?

Пра каханне "па-беларуску" расказваецца чамусьці зусім не на гэтыя вязлівыя сродкі, а на грошы, якія выдзяляюць з маленькай пенсіі ці заробку самі нашы грамадзяне і за чый кошт выдаецца газета "Наша Слова", орган Таварыства беларускай мовы. Менавіта гэтая грамадская арганізацыя разам з Саюзам пісьменнікаў і з'яўляецца апошнім фарпостам беларускасці ў краіне, менавіта яны бяруць на сябе многае, што павінна была б рабіць дзяржава: умацоўваць карані нацыі. Але пастаўлены нашы грамадскія арганізацыі ва ўмовы, дзе галоўная задача сёння — выжыванне. Выжыванне ад бясконцых праверак, прыдзірак, патрабаванняў. Куды лягчэй скласці рукі і сысці — але мы не маем на гэта права. Бо тут справа ідзе аб выжыванні нашай гістарычнай праўды, нашай нацыянальнай мовы. Гэта — справа сэрца кожнага, у кім засталося жывое, трапяткое, не знішчанае пастаянным здзекам неадукаваных (і што найбольш балюча, нібыта адукаваных) робатаў, цвёрдае перакананне: мы не павінны аддаць нашу мову і нашу літаратуру на гвалт і знішчэнне, якое ёй рэальна пагражае. Услед за імі як духоўнымі каштоўнасцямі непазбежна знікне і тая энергія, якую назапасілі нашы продкі і ад якой яшчэ нешта застаецца і нам, сённяшнім. Нездарма яе называюць часам "ахоўнай коўдрай народа". А без яе, ахоўнай энергіі продкаў, мы будзем, як пад чорнай азонавай дзіркай, з яе жорсткім ультрафіялетавым абпраменьваннем — безабаронныя і роспачныя...

І няхай крычаць сёння невукі, што, маўляў, ад мовы не залежыць мараль.

Думаю, што той загадчык аддзела культуры, які ў ледзь не самай забруджанай радыяцыяй зоне Беларусі выганяе са службовай кватэры *цяжарную* настаўніцу музыкі (пра гэта паведамляла Радыё Свабода) і звальняе з працы, каб не плаціць належныя ёй дэкрэтныя, не думае пра тое, пра што думаў бы кожны нармальны грамадзянін: што ён фактычна тым замахваецца на будучае *сваёй* краіны, што ягоным дзецям ці ўнукам стаў бы, магчыма, зарабляць на пенсію чалавек, якога народзіць падпарадкаваная яму зараз па волі лёсу маладая жанчына. Што дзіця гэтае, калі народзіцца, можа стаць гонарам краіны, у якой жыве ён і будуць жыць яго дзеці. Што, нарэшце, нацыя сёння вымірае і ёй так патрэбны кожны! Я не кажу пра тое, што ў гэтага чалавека зусім не спрацоўваюць і даўнія, народам праверaныя і замацаваныя традыцыі: цяжарную жанчыну нельга крыўдзіць, ёй патрэбна заўсёды дапамагаць.

Чаму ж адбылося адваротнае? Таму што гэты начальнік — манкурт (якіх, на жаль, не так і мала), для якога існуе толькі Сёння і існуе толькі матэрыяльная абалонка жыцця, а не яго сакральная сутнасць. У гэтай абалонцы ён фактычна адзін — ну хіба што са сваей сям'ёй, але не са сваім Родам (які нездарма для даўніх язычнікаў быў богам, настолькі яны шанавалі род), не са сваім Народам, часцінкай якога ёсць гэтая настаўніца, што нясе ў сабе працяг і рода, і народа...

Адчуванне роднаснасці з людзьмі навокал і акаляючым асяроддзем часта існуе на падсвядомым узроўні, тлумачыць гэтае пачуццё, усе роўна што гаварыць з глухім, — яго трэба чуць у сваёй душы. Адсутнасць яго адчуваецца як няшчасце, ды здагадацца, што з ім здарылася, чалавек часам проста не можа.

Са многімі з нас даўно нешта здарылася — інакш, гаворачы пра галадоўкі вядомых палітыкаў, не мог бы нармальны чалавек жадаць ім смерці (што таксама чулі мы па Радыё Свабода). Я думаю, што ў ім, тым, на шчасце, адзіным, хто гэтак адгукнуўся на ахвярную акцыю мужных людзей, зноў жа падсвядома гаварыла віна — віна за тое, што іншыя ахвяруюць сабою, а ён на гэта не здольны. І не толькі не здольны, але нават баіцца пра тое падумаць, бо даўно адвучыўся па-сапраўднаму *думаць*. Не дзіва — яму ў гэтым актыўна дапамагаюць магутныя сродкі прапаганды: друк і тэлебачанне.

Не паднімаецца рука напісаць — нацыянальныя: яны колькі гадоў не абнаўляюць свае старыя транты расійскай правіцыі. Калі сышоў Я.Рыбакоў, якога афіцыйна абвінавацілі ў тым, што ён зрабіў з ТБ нешта "дыск-жакейскае", думалася з нейкай тужлівай надзеяй: а раптам усё ж будзе ўлічаны яго "вопыт" і на тэлебачанні з'явяцца сур'ёзныя праграмы хаця б па культуры? (І з вядучых газет Беларусі ў так званых гістарычных рубрыках знікнуць пастаянныя згадкі пра тое, што рабіў у гэты дзень Пётр Першы, нібыта ўся наша гісторыя пачыналася і заканчвалася гэтым царом *іншае* дзяржавы).

Не! Тыя ж бадзёрыя хлопцытусовачнікі, якія і з рэдкімі беларускамоўнымі выступоўцамі не могуць двух слоўцаў звязаць на сапраўды нацыянальнай мове. Тыя ж дзевачкі, якія раніцай гадзінамі будуць расказваць, якую парфуму трэба ўжываць школьніцам і сабачкам. Тыя ж злосныя, нібы нацкаваныя ўмелым паляўнічым ганчакі, якія ганяць апазіцыю... Прычым увесь час нам не паказваюць, а толькі ўсё "талкуюць" самі, як, напрыклад, пра акцыю 21 ліпеня — пра п'яных, якіх мы не бачым, пра буйствы, якіх няма, пра дабрыню да рускіх журналістаў, якім не заламалі рукі ды не вывезлі іх, як беларускую моладзь, да могілак за Мінскам, а проста забаранілі тут працаваць. І альтэрнатыўны погляд у правінцыі ўбачыць немагчыма — тут даўно ўсе заблакіравана.

У правінцыі працуюць толькі тры тэндэнцыйныя, нецікавыя, у палітычных адносінах амаль заўсёды агрэсіўныя праграмы, так што практычна вёска і мястэчкі глядзяць толькі іх. І яны робяць высновы. Нават тыя, хто падтрымлівае апазіцыю, баяцца ўзняць голас. Нават тыя, хто ведае мову, баяцца гаварыць пабеларуску! Бо ўжо дзесяць гадоў у нашай краіне амаль усё беларускае — гэта сінонім апазіцыйнага. І нашы парламентарыі таксама ні разу не ўзнялі свой голас у абарону мовы, якую год за годам душаць і знішчаюць...

Дзяўчаткі і хлопчыкі з БТ гоняць шэры, правінцыйны прадукт, дзе культурай амаль што не пахне, дзе няма літаратуры. І іх можна зразумець: яны таксама мала чытаюць, бо чытанне патрабуе думання. А навошта думаць, калі "за нас з табою думаюць правадыры"? Вось і адлюстроўвае наша тэлебачанне правінцыйнае захапленне "вярхоў" чарговай залётнай птушкай, якая забярэ з якога-небудзь раёна чвэртку ўсяго іхняга бюджэту на культуру і якую запрашаюць у асноўным усё ж дзеля таго, каб яна пасля праспявала чарговую падзяку і захапленне цудоўным беларускім жыццём.

Але "патайных спружын" усяго гэтага наш абывацель не ведае. Ён прапусціў міма вушэй мудры тэзіс, што рускім у нас павінна быць лепей, чым у Расіі. Вось толькі не зразумела, як жа быць беларусу ў Беларусі, ці ёсць яму месца тут, калі ён сапраўдны беларус, а не тутэйшы?

І зноў жа замучанаму соткамі абывацелю няма часу і сіл задумацца, што ордэн Скарыны мог бы атрымаць Адам Мальдзіс, а ганаровым грамадзянінам Полацка стаць таксама і Уладзімір Арлоў, які напісаў менавіта пра гэты горад мноства выдатных кніг, у тым ліку і унікальную — "Таямніцы полацкай гісторыі"...І пра многае іншае, у тым ліку і пра будучае нацыі.

Але інтэлігенцыя думаць павінна, у гэтым яе гістарычная задача, дзеля гэтага яе заклікаў час. Думаць і будзіць у народзе годнасць і гонар, сілы змагацца за свае правы — правы Чалавека, Грамадзяніна, сына сваёй зямлі...

12

жнівень

ЧАЦВЕР

Усх. 5.42 Зах. 20.46

Даўж. дня 15.04

Апошняя квадра 8 жніўня

ШАШКІ

## Крыштальны эндшпіль

Класіфікацыйны конкурс-15 працягваем шостым заданнем — праблемай неаднаразовага чэмпіёна Беларусі з Наваполацка Пятра Шклудава на яго празы, у якой камбінацыя белых завяршаецца крыштальным эндшпілем:

**Белыя:** a1, e1, e5, f4, f6, g5, g7, h6 (8).

**Чорныя:** b4, b6, b8, c3, c7, d2, h2, h4 (8).

**Выйгрыш** (два ачкі).

Калі раптам з'явіцца натхненне, паспрабуйце скласці аналагічную канцоўку.

Удзельнікі нашых папярэдніх конкурсаў могуць пачаць з пятага задання. Таму паўтараем яго:

**Белыя:** a3, f2, f4, h2. h4 (5).

**Чорныя:** a5, e7, f6, f8, g7 (5).

Таксама перамога белых (два ачкі).

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**



## Супаставім рашэнні

Праверце, калі ласка, рашэнні пазіцый, змешчаных 24 чэрвеня.

**"Шашачныя "дары".** Заданне №12 класіфікацыйнага конкурсу-13 (У.Матус): c7, c7 (g5) ab8, f2, d8, g3, e7, g5, g7x. "Дар пературыўся ў скрушальны ўдар!" — з уздымам піша Пётр Чэрнак (Брэст). Кампазіцыя дапускае перастаноўку ходаў: 3.cd8 4.ef2 і 5.ab8x. Яна мае і прыватнае пабочнае рашэнне: 3.fe3x. Падманлівы след: 1.c7, c7 (g5) d8, e7? (f2) g3, c1 (b4) b8 (de3!, a3)=.

А.Нагуманаў: ab6 (c3) d4 (b4) h8, g3 (ab2) h6-g7, d4, f8, g5, f2x.

**Рашылі:** Д.Блахін, А.Чумакоў, В.Казарэвіч, М.Гарадзіеўскі, У.Мазанік, А.Перавознікаў, Л.Жыхар, С.Курапатаў.

А вось наступныя канкурсанты зарабілі дадатковыя ачкі: па 2,5 — У.Сапяжынскі, Г.Логвінаў, Ф.Хадачынскі, П.Чэрнак, У.Таратушкін, У.Захарчук, А.Янчук, М.Клязовіч, В.Краўчук, А.Пярхальскі і А.Ашыхмін (за ўказанне 3.cd8 4.ef2 і 5. ab8x), М.Буканаў, І.Мацкевіч, Аляксандра Камінская, С.Супрунюк і А.Ляхоўскі (за прывядзенне 3.fe3x); па пяць ачкоў — В.Масквіч, Л.Вітошкін, М.Андрушчанкаў, П.Каролік, А.Кагоцька, А.Белы, М.Падбярэзскі, В.Грабенка і Д.Камчыцкі (за 3.cd8 4.ef2 5.ab8x і 3.fe3x).

**"З нізкі кампазіцый"** (В.Шульга): **№ 1** — g7 (h2 A) h6 (g3) e3 (g1) c5, h2x. A (f2) ge5, c5, g3/h4x. Можна 4.b:g7/h8 gh2 5.dc5 fe3 6.g7/h8-d4x. Заўважылі А.Янчук, М.Падбярэзскі, У.Мазанік, В.Грабенка і В.Масквіч. Пасля 4.b:g7 gf2 да мэты вядзе і 5.gh6x. Убачылі М.Падбярэзскі, А.Перавознікаў, М.Клязовіч, Л.Жыхар, В.Масквіч і В.Грабенка. Калі ж 4.b:g7 gh2, выйграе таксама 5.gf8x. Звярнуў увагу толькі С.Курапатаў; **№ 2** — 6.g3! (a3 A) f2 (b6 BC) a7 (b2) c3, h6x. C (h4) c3x. B (b2) c3, c5 (f4/h4) f2x. Белыя перамагаюць з матэматычнай дакладнасцю анкернага ходу гадзінніка!" — усклікае мінчанін Фёдар Хадачынскі. A (b6) e5 ці e3x. Не прайшлі міма гэтай акалічнасці С.Курапатаў, У.Мазанік, А.Ляхоўскі, А.Чумакоў, М.Гардзіеўскі, П.Чэрнак і іншыя.

Бліцконкурс-34 выйгралі майстар Аляксандр Ляхоўскі (Жодзіна) і кандыдат у майстры спорту Васіль Грабенка (Мінск), якія і пасля іншых уступных хадоў ад эцюдаў не пакінулі "каменя на камяні". Аднак яны не пакрыўдзілі аўтара. Наадварот, за рашальніцкую "доблесць" іх чакаюць яго прызы.

## Міжнародныя турнір і фестываль

У г.Млава (Польшча) адбыўся міжнародны турнір па шашках-100. У ім прынялі ўдзел 84 шашысты з Украіны, Польшчы, Беларусі і Латвіі.

Першае месца заваяваў Іван Антоненка (Украіна), у актыве якога 15 ачкоў. На два ачкі адстаў ад яго Андрэй Маісееў (Мінск). Па 12 ачкоў набралі Валерый Маркоўскі (Бабруйск), мінчане Віталь Варушыла і Аляксей Федарэнкаў, а таксама Андрэй Мацявін са Слоніма. Затое Андрэй Мацявін быў лепшым у кадэтаў 1988—1990 гадоў нараджэння. Яго зямляк Віталь Аніська, у якога ўсё яшчэ наперадзе, заняў чатырнаццатае месца.

А ў Магілёўскай вобласці ладзіўся фестываль "Хоцімск-2004" па шашках-64". Ён сабраў 28 ігракоў, у тым ліку з Бранска — 9.

У галоўным турніры вызначыўся майстар Валерый Маркоўскі (Бабруйск), які запісаў на свой рахунак 14 ачкоў з 18 магчымых (+5 з 9). Такі ж самы вынік і ў міжнароднага гросмайстра Андрэя Валюка (Гродна) і майстра Уладзіміра Беляеўскага (Мінск), але па каэфіцыенце яны падзялілі другое-трэцяе месцы. Прызёрамі таксама сталі майстры Алег Холін (Бранск) і Васіль Навумік (Ваўкавыск). У іх па +3. У жанчын мацнейшай была майстар Марына Разаева (Віцебск). Партыі без паражэнняў прынеслі ёй 10 ачкоў. Аляксандр Малашэнка, браты Аляксандр і Сяргей Пруднікавы (усе з Хоцімска) выканалі норму для прысваення ім звання кандыдата ў майстры спорту. У намінацыі маланкавай гульні перамог А.Валюк.

Фестываль прайшоў на высокім узроўні. Вялікі ўклад у яго арганізацыю ўнёс дырэктар Хоцімскага фізкультурна-спартыўнага клуба Сяргей Уладзіміравіч Сычоў.

Аб усім гэтым паведамілі галоўныя суддзі спаборніцтваў Аляксандр Аніська (Слонім) і Юрый Файнберг (Мінск).

## Фрагмент з партыі

Мы ўжо паведамлялі, дзякуючы яшчэ аднаму нашаму карэспандэнту Анатолю Пярхальскаму, што рубрыка "Шашкі" выходзіць і на старонках "Веснікa Глыбоччыны". У адным з апошніх выпускаў дэманструецца фрагмент з партыі:

**Белыя** (Антон Бацяноўскі, Глыбокае): a5, c1, c3, c5, d4, f2 (6).

**Чорныя** (Леанід Жыхар, п/а Крывічы): a7, b6, b8, c7, f4, f6 (6).

Белыя праводзяць не зусім прыкметную камбінацыю. Пашукайце яе.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ, майстар спорту.**

ШАХМАТЫ

## Из шахматной классики С.Лойд

**Белые:** Kph3, Фd8, Лd2, Лf7 (4).

**Черные:** Kpe5, Ca8, пп.d3, e4, e6 (5).

**Мат в 3 хода.**

Предлагаем вниманию читателей трехходовую задачу выдающегося американского шахматного композитора Сэмюэля Лойда. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная воля", "Шахматы".**

## Сверьте решения

**"Как победить"** ("Народная воля" за 17.06): в этюде А.Калинина по замыслу автора к цели ведет 1.Фf8+ Kph7 2.Фg8+!!Ф:g8 3.g6+ Kph7 4.Kf7+ Ф:f7 5.gf g6+ 6.Kph6! (но не 6.Kp:g6? — пат!) 6...g5 7.f8Фx. Однако наш читатель из городского поселка Костюковка Гомельской области Анатолий Долгачев нашел второе решение этюда: 1.g6! gh 2.Фf8+ Фg8 3.g7+ Kph7 4.Ф:g8+ Kp:g8 5.Kp:h6. Если 1...Фd5+, то 2.Kf5 Фc4 3.Ke3 Фc5+ 4.Фf5, 1...Фe5+ 2.Kf5 Фh2+ 3.Kpg4, 2...Фd5 3.Kpg5 Фd8+ 4.Kpg4 или 2...Фc5 3.Фf4 Фa7 4.Фe5! Для устранения побочного решения Долгачев предлагает переставить белого ферзя на поле f2. Тогда на 1.g6 возможно 1...Фh3+ с очевидной ничьей.

**Задача В.Рычкова** (опубликована 24.06.): **1.Cd4!** Не 1.g4? Cd4! 1.Ca7? Kb6, 1.Cc5? Kd3!

**Композиция Г.Святова** ("Народная воля" за 1.07.): **1.Фh7!**

**Двухходовка В.Пильченко** (опубликована 8.07.): **1.Лe3!**

**Задача Е.Богданова** ("Народная воля" за 22.07): **1.Фe6!**

1...Kpd3 2.o-o-o+ Kp:c3 3.Фc4x, 1...hg 2.Фc4+ Kpf3 3.o-ox, 1...Kpf3 2.o-o+ Kpg3 3.Фg4x, 1...bc 2.Фg4+ Kpd3 3.o-o-ox.

Свои ответы на композиции прислали тт.Лагодич (Пинск), Караев (Барановичский район), Долгачев (Костюковка), Зоткин (Гомель), Горский (Витебск), Сыманович (Лида), Жилко (Лунинец), Буканов, Добровольский, Зверев, Литвинов, Савицкий, Шкробов (Минск).

## Заявки получены

На пресс-конференции в Москве, которую провел президент ФИДЕ Кирсан Илюмжинов, было сообщено, что предстоящий осенью поединок между победителем чемпионата мира Рустамом Касымжановым и Гарри Каспаровым вызывает большой интерес. Этот матч выразили готовность провести Ташкент и Баку. Но наибольший прогресс, как сказал Илюмжинов, достигнут в переговорах с властями ОАЭ. Столица Объединенных Арабских Эмиратов город Дубаи уже подал официальную заявку на проведение у себя двух матчей: Каспарова с Касымжановым и победителя этой пары с сильнейшим в матче Крамник—Леко. Организаторы из Дубаи готовы обеспечить половину призового фонда. Остальные средства могут поступить от лондонского мецената и миллиардера Натана Ротшильда.

## Фестиваль в Пардубице

Традиционный XV Международный шахматный фестиваль прошел в чешском городе Пардубице. Особый интерес вызвал главный турнир фестиваля, в котором приняли участие 376 спортсменов, в том числе более ста международных гроссмейстеров и мастеров. В турнире приняли участие и белорусские шахматисты. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. В острейшей спортивной борьбе первое место удалось занять молодому московскому гроссмейстеру Сергею Григорьянцу, набравшему 7,5 очка из 9 возможных. Сразу 11 участников набрали по 7 очков. По дополнительным показателям второе место было присуждено гроссмейстеру Эрнесто Инаркиеву (Россия), третье — гроссмейстеру Бартащу Сочко (Польша). Значительного успеха добился минчанин, 21-летний гроссмейстер Сергей Азаров. Он получил четвертый приз. По 7 очков набрали также гроссмейстеры 5.М.Туров, 6.В.Поткин, 7.Е.Наер (все из России), 8.Р.Калод (Чехия), 9.Д.Павасович (Словения), 10.З.Храчек (Чехия), 11.А.Янкович (Хорватия), 12.Д.Навара (Чехия).

А вот какие результаты показали остальные белорусские участники. Международный мастер Андрей Жигалко набрал 6 очков и занял 29-е место. Его брат 15-летний мастер Сергей Жигалко также набрал 6 очков, но по дополнительным показателям оказался на 46-м месте. Международный мастер Никита Майоров из Минска финишировал с 5,5 очка, что определило ему 67-е место. У чемпиона Беларуси мастера Андрея Малюша в активе 5 очков, 161-е место.

Среди женщин лучший результат в турнире показала Моника Сочко (Польша) — 5,5 очка, у минчанки мастера спорта Надежды Поливоды — 2,5.

## Успех молодых

Суперфинал женского чемпионата России по шахматам, в котором приняли участие все сильнейшие спортсменки страны, принес успех 18-летней шахматистке из Архангельска Татьяне Косинцевой. Она провела турнир без единого поражения и финишировала первой, набрав в 11 встречах 8,5 очка. Серебряную медаль завоевала чемпионка Европы этого года москвичка Александра Костенюк — 8 очков. В апреле она отметила свое 20-летие. А бронзовым призером стала старшая сестра чемпионки 19-летняя Надежда Косинцева — 6,5 очка. По 6 очков набрали вице-чемпионка мира 2004 года Екатерина Ковалевская и Алиса Галлямова, разделившие 4—5-е места. Следует отметить успешное выступление воспитанницы белорусской шахматной школы Елены Заяц, начинавшей свой путь в Барановичах. Она набрала 5,5 очка и заняла 6-е место.

## Четверг, 12 августа

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05 "Хам".** Сериал.
**08.25** "Радуйся!"
**09.10, 19.05 "Спрут".** Сериал.
**10.15, 20.05 "Тайны следствия-2".** Сериал.
**10.55, 17.25 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**11.55** "100 шагов к Олимпу".
**12.10** "Работа пуще неволи". Видеофильм АТН.
**12.25 "Какая чудная игра".** Трагикомедия.
**14.00** "Звездный дождь".
**15.15 "Наши самые прекрасные каникулы".** Сериал.
**16.00 "Москва—Кассиопея".** Худ.фильм.
**18.35** "Новая коллекция" Олега Лукашевича".
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Права человека. Взгляд в мир".
**22.00 "Полный привод".** Комедия.
**00.00** "Дневник Олимпиады".

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
***С 09.05 до 15.15 — техническая профилактика.***
**15.15 "Следствие ведут знатоки". "Третейский судья".** Сериал.
**16.10 "Женщины в любви".** Сериал.
**17.00** "Слабое звено".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**19.05 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.05 "Черный ворон".** Сериал.
**22.05 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.25 "Городские легенды-2".** Триллер.

**РОССИЯ**

**07.45, 17.05 "Бедная Настя".** Сериал.
**08.45, 19.55 "Каменская-2".** Сериал.
**09.50, 22.20** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30, 22.00** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Возвращение Будулая".** Сериал.
**11.55, 21.05 "Марш Турецкого".** Сериал.
**16.10 "Агентство "Золотая пуля".** Сериал.
**18.00 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**22.35 "Кундун".** Драма.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Площадь искусств".
**08.35, 22.10 "На всю оставшуюся жизнь".** Мелодрама.
**09.50** "Здоровье".
**10.15** "Ералаш".
**10.25, 21.15 "Тайны Ниро Вульфа".** Детектив.
**11.15, 18.20** "Между нами, женщинами".
**11.35, 18.40 "Подросток".** Драма.
**12.55** "По следам черепахи". Док.фильм.
**13.20** Мультфильм.
**14.10** "Приключения в затерянном мире". Мультсериал.
**14.40** "Не зевай!".
**14.50 "Нежный возраст".** Сериал.
**15.15** "Калинковичи". Док.фильм.
**16.15** "Встреча в Троицком" с Александром Домарацким".
**16.40** "Страсти по Авдею". Спектакль.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Квартирный вопрос".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30 "Охота на Золушку".** Сериал.
**17.35** "Протокол".
**18.40 "Москва, Центральный округ".** Сериал.
**19.50 "Я все решу сама".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35 "Иллюзия убийства-2".** Боевик.

**СТВ+RenTV**

**06.35, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.00** "Светская хроника".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Минское время. 1945 год".
***С 09.00 до 15.00 — техническая профилактика.***
**15.05 "ОБЖ, или Остаться без одежды".** Сериал.
**15.30** "Маска". Мультсериал.
**15.55** "Ecce Homo".
**16.15** "Добро пожаловаться..."
**17.00 "Веселая компания".** Сериал.
**18.15** "Театральные истории".
**18.30 "NEXT-3".** Сериал.
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш".
**20.35** "Фильм, фильм, фильм".
**20.55 "Отчаянные авантюристы".** Худ.фильм.
**23.20** "Турпоход".
**23.30** "Душой исполненный полет". Балет "Спящая красавица".
**00.00 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.45** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 17.00 "Таинственный мир Рут Рендел".** Сериал.
**07.50, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.00** Программа мультфильмов.
**09.15, 19.30** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**09.20** "Трюкачи Голливуда".
**09.40, 19.50 "Горец".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Гамлет".** Худ.фильм.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Слезы капали".** Драма.
**19.35** "Последний миф". Док.сериал.
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35 "Бурный понедельник".** Триллер.
**09.15** Мультфильм.
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05 "Преступление". "Обман".** Худ.фильм.
**12.20** "Квадратные метры".
**12.35, 23.05** "Петровка, 38".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Музыкальный серпантин".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** Мультфильмы.
**16.00 "Парижский полицейский".** Сериал.
**17.15** "21-й кабинет".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.55 "Торпедоносцы".** Драма.
**20.40** "Разбогатеть на старине". Спецрепортаж.
**21.40 "По закону".** Сериал.
**22.35** "Времечко".
**23.25** "25-й час. События. Время московское".
**23.50** "Супердиск".
**00.05 "Железный орел-2".** Боевик.

**EUROSPORT**

**09.30** Футбол. Еврголы.
**10.00** Конный спорт. Суперлига в Ирландии.
**11.00** Олимпийские игры. Футбол. Мужчины. Тунис—Австралия.
**12.00** Легкая атлетика. Супер-Гран-при в Швеции.
**13.30** Спидвей. Кубок мира в Англии.
**14.30** Олимпийские игры. Футбол. Женщины. Германия—Китай.
**16.30** Олимпийские игры. Футбол. Женщины. Греция—США.
**17.30** Олимпийские игры. Футбол. Женщины. Швеция—Япония.
**18.30** Новости Олимпиады.
**18.45, 00.00** "Цель — Афины".
**19.00** "Олимпийская одиссея".
**19.30** Олимпийские игры. Футбол. Мужчины. Греция—Южная Корея.
**20.30** Олимпийские игры. Футбол. Мужчины. Гана—Италия.
**22.30** Олимпийские игры. Футбол. Мужчины. Ирак—Португалия.
**00.15, 02.15** Новости "Евроспорта".
**00.30, 01.30** Ралли. Чемпионат мира в Финляндии.
**01.45** Ралли-рейд.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс(017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 550 экз. Заказ № 708.